# наша свабода

№73 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 ЛІСТАПАДА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


стар.7



Псіхіятрычная дапамога

## Приехал на разведку

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**До Минска с официальным рабочим визитом добрался и шеф российской внешней разведки генерал Сергей Лебедев.**

9 ноября он встретился с А.Лукашенко, который поблагодарил «российских чекистов» за всестороннюю помощь. В том числе и в подготовке кадров. При этом А.Лукашенко отметил, что, несмотря на развал Советского Союза, спецслужбы не разошлись.

Считается, что с приходом кадрового сотрудника бывшего Первого главного управления КГБ (нынешняя СВР – Служба внешней разведки) подполковника Владимира Путина в Кремль разными тропами чекисты вернулись во власть. И если в России это еще идущий процесс, то в системе государственной власти Беларусь за последние шесть лет он практически завершился. На всех ключевых постах находятся чекисты. Это и аппарат Совета безопасности, и Комитет госконтроля, МИД, многие другие структуры госуправления. Да и сам А.Лукашенко некогда служил в пограничных войсках, которые были в подчинении КГБ.

В отличие от России, где Борис Ельцин «распилил» былого монстра, выделив внешнюю разведку в отдельное ведомство СВР, которое напрямую подчиняется президенту, в суверенной Беларуси внешняя разведка так и осталась первым управлением КГБ. Ее бывший в начале 90-х годов начальник полковник Жуковец трагически погиб — упал с балкона известного в Минске дома на Немиге. Другой бывший начальник белорусской разведки полковник В.Герасимович ныне служит послом в Амстердаме. Ну а нынешний – полковник Минич – возглавлял до переезда в Минск Брестское областное управление КГБ.

В своем интервью « Московскому комсомольцу» шеф КГБ Беларуси генерал-лейтенант Владимир Мацкевич признал, что белорусская разведка имеет свои определенные приоритеты. Например, получение информации о сопредельных странах, о государствах, с которыми Беларусь имеет какие-то отношения. К успехам белорусской разведки он отнес ее содействие в продвижении отечественной продукции на западные рынки, получение ноу-хау иностранных государств. ▶

*Окончание на стр.3*

# Пераможца падтрымае Беларусь





## Наша стаўка на амерыканскія выбары

Віталь ЦЫГАНКОЎ

**Які амерыканскі прэзідэнт больш патрэбны беларускай дэмакратыі і незалежнасці?**

Вынікі выбараў прэзідэнта ЗША стануць вядомыя толькі сёння, але прааналізаваць варыянты для Беларусі мы павінны ўжо зараз. Што можа чакаць ад новага прэзідэнта ЗША Беларусь афіцыйная і Беларусь апазіцыйная?

Беларусі афіцыйнай наўрад ці варта разлічваць на нейкія істотныя змены ў палітыцы ЗША. Як адзначыў Анатоль Лябедзька, за апошнія паўтары гады беларускай апазіцыі ўдалося стварыць рэальнае прабеларускае лобі ў Кангрэсе ЗША. У яго склад уваходзяць як дэмакраты, так і рэспубліканцы, падыходы якіх да «беларускага пытання» не адрозніваюцца. Менавіта там, у Кангрэсе, былі прынятыя самыя важныя рэзалюцыі ў дачыненні да Беларусі.

Што можа істотна змяніцца ў палітыцы адміністрацыі ў выпадку перамогі Буша, дык гэта стаўленне да Расіі, і адпаведна да Саюза Беларусі і Расіі. Рэспубліканцы не будуць так цацкацца з Масквой, як гэта практыкавала адміністрацыя Клінтана на чале з вялікім аматарам Расіі спецыяльным прадстаўніком па справах СНД Строўбам Тэлбатам. У Амерыцы ходзяць чуткі, што пасля перамогі Буша гэтая пасада ўвогуле можа быць ліквідаваная. А вось на што звяртае ўвагу старшыня БНФ Вінцук Вячорка: *«Рэспубліканцы, і гэта засведчыў у сваіх праграмных прамовах Джордж Буш, не маюць асаблівых ілюзіяў наконт дэмакратычнай эвалюцыі Расіі, і гавараць пра Беларусь мы павінны ў плане захавання нашай незалежнасці, якой пагражае толькі адна Расія».* Хаця Вячорка як вопытны і абачлівы палітык афіцыйна не выказвае сваіх сімпатыяў да каго-небудзь з двух кандыдатаў, але цалкам зразумела, што БНФ як партыя права-кансерватыўнага накірунку, безумоўна, жадае перамогі Джорджу Бушу.

Беларускім прыхільнікам Альберта Гора, напэўна, будзе цікава даведацца, што менавіта да гэтай кандыдатуры з большай сімпатыяй ставіліся беларускія камуністы. І не толькі з-за таго, што за кандыдата-дэмакрата ў Амерыцы традыцыйна галасуюць маласабяспечаныя, беспрацоўныя, прадстаўнікі нацыянальных, расавых і сексуальных меншасцяў. Беларускіх камуністаў Гор прываблівае ўсё той жа прыхільнасцю да Расіі. Вось што гаворыць сакратар Партыі камуністаў беларускай Алена Скрыган: *«Больш прымальным быў бы, канешне, Гор. Перш за ўсё таму, што ў яго лепшыя адносіны да Расійскай Федэрацыі, і калі мы гаворым аб саюзе Беларусі і Расіі, то мы павінны і гэты момант улічваць. Я лічу, што ў яго былі надрэнныя адносіны з некаторымі прадстаўнікамі расійскай эліты, і гэта, мабыць, было б спрыянне для Расіі, а я лічу, што і для Беларусі, калі б быў абраны Гор».*

Беларуская дыяспара ў Амерыцы традыцыйна галасавала за рэспубліканцаў і – пераважна дзякуючы іхняй жорсткай знешняй палітыцы, асабліва ў стаўленні да камунізму. Менавіта рэспубліканцы – Рональд Рэйган (прэзідэнцтва ў 80-88 гадах) і бацька цяперашняга кандыдата Буш — старэйшы (88-92) — выйгралі халодную вайну ў Савецкага Саюза. Зрэшты, камуністычнай імперыі ўжо няма, і крытэры знешняй палітыкі значна змяніліся. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

стар.7

## «Рэзервісты» БТ

Адпраўленыя новым кіраўніцтвам у «рэзерв» супрацоўнікі беларускага тэлебачання выказваюць незадаволенасць тым, як на Макаёнка,9 праводзіцца структурная рэарганізацыя. Яны напісалі адкрыты ліст да старшыні Белтэлерадыёкампаніі Віктара Чыкіна, у якім вымагаюць сумленнага і «празрыстага» конкурсу тэлепраектаў, а таксама праверкі фінансавай дзейнасці БТ за апошнія гады.



стар.7

## Садысты ў міліцэйскай форме

Здзекі над падлеткамі ў Партызанскім РУУС горада Мінск

## НАВІНЫ

■ **Больш як на 30% падаражэлі паездкі ў прыгарадным і міжгародным транспарце.** Па прыгарадных маршрутах кіламетр стаў каштаваць ад 8 да 12 рублёў, а па міжгародніх – ад 12 да 18 рублёў. Разам з тым будзе болей каштаваць браніраванне квіткоў – ажно 40 рублёў.

■ **Сёлета пад Новы год, відаць, абыдзецца без дэфіцыту шампанскага.** Паводле пастановы ўрада, дадаткова будзе выраблена 19 мільёнаў літраў пладовых і шампанскіх вінаў. Гэтак выконваецца той пункт з дзяржаўнай праграмы супраць п'янства, дзе кажацца пра прыярытэт вытворчасці слабаалкагольных напояў.

■ **Адзін з буйнейшых вытворцаў фосфарных угнаенняў Гомельскі хімічны завод перапыніў іх выраб.** Справа ў тым, што сельская гаспадарка проста не плаціць за гэтую прадукцыю. На сённяшні дзень запазычанасць перад заводам складае паўмільярда рублёў.

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1100**

## Где окажутся обреченные?

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

Нынешние президентские выборы в США получились в высшей степени интригующими. Впервые в их истории, после голосования и подсчета голосов избирателей, пост президента остался вакантным. Возможно имя 43-го президента США станет известно в день выхода этого номера газеты, а возможно и через дней десять, когда досчитают голоса избирателей в штате Флорида, которые, по разным причинам, находятся за рубежом. Все прогнозисты и аналитики стараются весьма осторожно высказываться по поводу возможных результатов выборов. Одно очевидно — в США невозможно правление нелегитимного президента.

Всемирный интерес к президентским выборам в США является свидетельством той полярности мира, которая сложилась в последние десять лет. Не лишены любопытства к нынешним фигурам кандидатов в президенты США и считающие себя аналитиками лица, самоозабвенно обслуживающие правящий режим в Беларуси. В своих умозрительных конструкциях будущего мироустройства они явно выдают нервозность обреченных, которые кучкуются вокруг одинокого правителя, потерявшего сербского друга. Полагая, что от внешнего мира можно огородиться, проводя « свою» политику, они считают нужным высказываться в этакой отвязанной форме об американских политиках. ▶

*Окончание на стр.3*

## Выбарчы сняданак у гатэлі «Беларусь»

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Раніцу ў сераду каля пяцідзесяці беларускіх палітыкаў і журналістаў правялі на 21-ым паверсе гатэля «Беларусь». Там амерыканская амбасада наладзіла «сустрэчу» новага прэзідэнта – падчас сняданку з дапамогай спадарожнікавага тэлебачання і інтэрнэта госці маглі назіраць за фінішам прэзідэнцкай гонкі ў ЗША, а таксама правесці сваё, умоўнае галасаванне. Першая частка праграмы хаця і атрымалася надзвычай захапляльнай, але не дала выніку. Пасля дзевяці гадзінаў, якраз калі госці пачалі разыходзіцца з упэўненасцю ў перамозе Буша, прыйшлі звесткі пра новы пералік галасоў ў Флорыдзе, і бурны фініш ператварыўся ў маруднае чаканне. Затое галасаванне за амерыканскага прэзідэнта па-беларуску атрымалася куды больш выніковым. 49 адсоткаў гасцей прагаласавалі за выхаванца дэмакратаў Эла Гора, у той час як рэспубліканцу Джорджу Бушу-малодшаму дасталіся толькі 43 адсоткі галасоў беларускіх сяброў Амерыкі.

Маё асабістае даследаванне паказала, што перамогу Гору забяспечылі беларуская журналісткі, якім гэты чарнявы «мэн» прыйшоўся вельмі даспадобы. Палітыкі ж перш за ўсё галасавалі за Гора-віцэ-прэзідэнта ЗША, па прынцыпе «коней на пераправе не мяняюць». Што ж тычыцца прыхільнікаў Буша, ім такі аргумент здаваўся смешным. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# Восень у Старобіне

**Аляксандар ДУБРАВІН**

Старобін, былы раённы цэнтр Мінскай вобласці, які некалі даў жыццё Салігорску, зараз прыйшоў у поўны занянад і становіцца падобным да глухой вёскі. У сем гадзінаў вечара пасёлак пагружаецца ў цемру, грамадзяне зачыняюцца ў сваіх хатах і спускаюць з ланцугоў сабак. Суседства з шахцёрскім горадам спрыяе перыядычнаму з'яўленню ў Старобіне шматлікіх чужынцаў, абрыдлых валацугаў і п'яніцаў, якія цёгаюцца па вуліцах і дварах у пошуках чаго ўкрасці. Не адстаюць ад іх і свае, местачковыя маладзёны, адзіным сталым заняткам для якіх становіцца п'янства. Адсутнасць якой-небудзь жыццёвай перспектывы ў маладых старобінцаў робіцца ўсё больш спажыўнай глебай для крыміналу.

Старобін быў вядомы некалі сваёй сярэдняй школай, настаўнікамі, інтэлігенцыяй і заўсёды вызначаўся досыць прыстойным для беларускай глыбінкі ўзроўнем бытавой культуры. Але сёння пра гэта ўжо не ўспамінаюць. Славутая некалі раённая бібліятэка згарэла дашчэнту, а Дом культуры загналі на ўскраек пасёлка, да балота, пад торфабрыкетны завод.Туды ж загналі і аўтастанцыю. Вялікі і прыгожы парк каля рэчкі згнюсілі, дрэвы спілавалі. Паразбівалі і павыкідалі дэкаратыўныя скульптуры, лавачкі. Зараз найпрыгажэйшы будынак у Старобіне – аддзяленне Беларусбанка. Ён зіхаціць сучаснымі пластыкавымі сценамі і металічным дахам. Затое зусім побач у катастрафічным стане знаходзіцца паліклініка, якую апошні раз фарбавалі яшчэ, мабыць, за Хрушчовым. Каб атрымаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу, старобінскія пенсіянеры мусяць ездзіць у Салігорск. Старобінская праваслаўная царква месціцца ў невялікай прыватнай хаціне, а на месцы былой царквы, проста на магілах святароў, нейкім дурнем зроблены месцы для гандлёвых радоў. Натуральна, старобінцы там не гандлююць, затое туды часта швэндаюцца п'яніцы і паскудзяць за высокім бетонным плотам.

Свае шматлікія беды мясцовыя жыхары звязваюць з раённым назначэнцам, прысланым аднекуль наменклатурным скакуном па прозвішчы Дзірко, які правіў тут у якасці вертыкальшчыка апошнія дзесяць гадоў, а зараз шчыруе недзе на Беларуськаліі. Менавіта пры ягоным праўленні Старобін ператварыўся ў сапраўдную дзіру. Гэтае становішча зараз усімі сіламі імкнецца выправіць новы старшыня пасялковага Савета. З яго прыходам старобінцы крышку павесялелі. Але пасялковы бюджэт мізэрны, а праблемаў – цэлы воз. Таму жыхары гавораць, што ўсе сродкі забірае пад сябе Салігорск.

Напярэдадні выбараў у палату №2 пра старобінскіх пенсіянераў успомнілі. Сюды з рэкламным візітам прыехалі агітатары з газеты «Рэспубліка», рэдактар якой, Сяргей Дубовік, стаў лукашэнкаўскім кандыдатам у палату. Кандыдат, як водзіцца, многа абяцаў. З вялікай помпай было аб'яўлена, што адноўлены вячэрні аўтобусны маршрут Салігорск – Старобін на 22 гадзіны 50 хвілін. Але ўжо пазаўчора на аўтастанцыі з'явілася аб'ява, што рэйс зноў адмяняецца. Мусіць, да прэзідэнцкіх выбараў. ■

## ФОТАФАКТ



Шклоў пасля «Дажынак-2000»



# Разбойный налет на газету «Шаг»

**Александр ЛОБКОВ, главный редактор газеты «Шаг»**

**В ночь с 4 на 5 ноября в Барановичах был совершен разбойный налет на редакцию независимой региональной газеты «Шаг».**

Преступники похитили все компьютеры, принтеры, сканеры и другую оргтехнику, необходимую для выпуска газеты. Одна из версий – попытка заставить замолчать газету, которая в последнее время сделала значительный шаг вперед как в расширении региона распространения, так и в качестве публикаций. Кроме того, два месяца назад эта газета стала первой ежедневной региональной независимой газетой. Однако утверждать что-либо с уверенностью пока нельзя. Как рассказывает работник охраны, ранним утром 5 ноября на него было совершено нападение. Он был избит и связан. Угрожая пистолетом, преступник потребовал у него ключи от кабинетов. Ключей не оказалось. Тогда налетчики взломали дверь в кабинет, где происходила верстка газеты. Сначала, по словам охранника, которому не только связали руки и ноги, но и заклеили глаза, преступники стали носить оргтехнику в коридор к выходной двери, а затем уже вынесли на улицу, где погрузили все награбленное на автомобиль и скрылись.

В этом разбойном нападении есть множество неувязок, которые никак не ложатся в логическую схему обычного нападения.

Неувязка первая. Налетчики вынесли компьютеры и принтеры, содрали прикрученный к стене *HUB* (устройство для обеспечения работы компьютеров по сети) стоимостью 25$, но не тронули несколько новых картриджей к принтерам, стоимость которых несколько сот долларов. Не взяли они и факс, стоявший тут же на столе.

Неувязка вторая. Почему преступники вломились в дверь с надписью «Редакция газеты «Шаг»? Дело в том, что в здании, где размещается редакция, расположено несколько фирм, а дверь напротив редакции и вовсе ведет на склад торговой фирмы, где товаров несравнимо больше.

Неувязка третья. Преступники перерезали только те телефонные провода, которые обеспечивают связь редакции.

Неувязка четвертая. Сбитый с ног охранник, перед тем, как ему заклеили глаза, уже лежа на полу, увидел на одном из нападавших брюки военного образца и воинские ботинки. И еще. Когда после завершения налета охранник обратился к преступникам с просьбой немного ослабить веревки, связывающие руки, то они выполнили его просьбу (и это тогда, когда дорога каждая секунда, когда в любой момент по улице может проехать патрульная машина, пройти не в меру любопытный прохожий?)

Одним словом, загадок в этом деле множество. Еще одна маленькая деталь: возможно это совпадение, но в вечер, предшествующий ограблению, провод моего домашнего телефона был обрезан. Только случайно я обнаружил обрыв и исправил повреждение.

Несмотря на выходные дни, милиция начала расследование. На месте происшествия побывала оперативная группа, которая произвела осмотр места преступления и выполнила все необходимые действия. Один из офицеров милиции в ходе беседы со мной и директором ООО «Шаг» Анатолием Войтеховским пообещал: «Во что бы то ни стало я найду эти компьютеры». Очень хочется верить.

Однако, если нападение произведено с целью прекращения газеты, то заказчики просчитались, заявляю это со всей ответственностью. Газета «Шаг» будет выходить. ■

# Каго ўратоўвае ў Гродне Казанскі абраз?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

**4 лістапада ў Гродна прыязджаў Патрыяршы экзарх Філарэт. У Свята-Пакроўскім саборы ён правёў урачыстае набажэнства з нагоды дня Казанскай Божай маці, абраз якой знаходзіцца ў гэтым храме.**

Сродкі масавай інфармацыі тым часам тлумачылі, што абраз гэты калісьці выратаваў Маскву «ад палякаў» альбо— «ад польскага войска». А па радыё раптам паведамілі, што Казанская Божая маці з'яўляецца «заступніцай Гродна». Слухачы маглі сабе ўявіць, што раз Маскву ад палякаў выратавала, значыцца і Гродна ад іх абароніць. Вось такая блытаніна ўводзіцца ў вушы сённяшнім беларусам.

Добра вядома, аднак, што знойдзены на гарэлішчы ажно ў Казані абраз гэты быў дастаўлены ў Маскву. Чаго, маўляў, збаялася «польскае войска» і пакінула расійскую сталіцу. Адбылося гэта якраз напачатку лістапада 1612 года. Аднак рэч у тым, што гэта — па сённяшніх паняццях было беларуска-польскае войска. І ў Маскве стаялі разам з палякамі продкі беларусаў і гродзенцаў, у прыватнасці. Пры дапамозе Казанскага абраза рускія ад нашых і адбараніліся.

Пасля захопу беларускіх земляў царскія ўлады рабілі ў нас што хацелі. Гатычную Фару Вітаўта яны перарабілі на «Сафійскую» царкву, прымацаваўшы зверху недарэчныя цыбуліны. Але касцёл Вітаўта быў самы высокі, таму цыбуліны цяпер былі відаць з усіх бакоў, каб падарожныя бачылі, што Гродна— «рускі праваслаўны» горад. А каб замацаваць сваю прысутнасць у гэтым храме, якраз і змясцілі абраз Казанскай Божай маці. Гэты акт стаў сімвалам замацавання расійскай прысутнасці на заходніх рубяжах былога Вялікага княства Літоўскага. Як вядома, пазней беларускую уніяцкую царкву цар забараніў, ператварыўшы яе гвалтам у рускую праваслаўную.

Нічога аб гэтым сродкі масавай інфармацыі не паведамілі. Не паведамілі яны таксама і таго, што ў Гродне знаходзіцца толькі копія Казанскага абраза, як, зрэшты, і ў Маскве, дзе таксама вельмі адзначалася свята гэтай іконы. Арыгінал быў скрадзены яшчэ напачатку стагоддзя. Нядаўна ён быў знойдзены ажно ў Ватыкане. Казанскія ўлады звярнуліся туды з просьбай вярнуць абраз. Папа Рымскі адказаў станоўча. Патрыярх Алексій II, аднак, адразу зганіў ініцыятыву, да якой не дадумаліся ў РПЦ. Маўляў, усё гэта — самадзейнасць казанскіх уладаў, а знойдзены быў увогуле, быццам бы, зусім і не арыгінал, хаця сам Алексій яго не бачыў. Усё гэта вынікі палітыканства, паколькі РПЦ не жадае па-сапраўднаму супрацоўнічаць з Ватыканам.

У гэтае палітыканства і мы ўцягнутыя. Наша гісторыя спецыяльна перакуленая з ног на галаву. Нам навязаны расійскія каштоўнасці, расійскі пункт гледжання на нашае ж мінулае. Сёння ў Гродне адзначаюць свята Казанскай іконы, у наступным годзе гучна адсвяткуюць «200-годдзе Гродзенскай губерні». Цары могуць спаць спакойна, іхнія захопніцкія планы цалкам ажыццявіліся пры першым беларускім прэзідэнце. ■

## ІНТЭРФАКС

# Працэс па забойстве святара паліцыянтамі

У Польшчы ўзноўлены судовы працэс супраць двух генералаў, якія займалі высокія пасты ў МУС падчас сацыялістычнага рэжыму. Уладзіслаў Чыастон і Зянон Платэк абвінавачваюцца ў саўдзеле ў забойстве ў 1984 чатырма супрацоўнікамі МУС святара Ежы Папялюшкі. У.Чыастон, якому зараз 75 гадоў, быў у той час намеснікам міністра ўнутраных справаў і кіраўніком службы бяспекі. 72-гадовы З.Платэк быў кіраўніком чацвёртага ўпраўлення МУС, які займаўся, у тым ліку, і работай з каталіцкай царквой. Забойцы святара, прыгавораныя да розных тэрмінаў зняволення, былі ў ягоным падначаленні.

Расследаванне супраць двух адстаўных генералаў пачалося ў 1990 годзе. Абодва адвяргаюць сваю віну, аднак правялі два гады за кратамі. У 1994 годзе з-за адсутнасці доказаў справа была закрытая. У 1998 годзе справу ізноў адкрылі, але два састарэлыя падазроныя адмовіліся з'явіцца ў суд, спасылаючыся на дрэнны стан здароўя.

Святар Папялюшка быў капеланам руху «Салідарнасць» і па сваёй ініцыятыве служыў «месы за радзіму». Як нагадвае агенцтва ЭФЭ, ён быў скрадзены, падвергнуты катаванню, а яго цела забойцы выкінулі ў балота непадалёк ад горада Торунь. ■

КНІГАРНЯ

# Вяртанне выцінанкі

**Павел ЖАЎНА**

У 60-я гады, калі я жыў у Дзятлаве і часта бываў на блізкіх да мястэчка хутарах, амаль у кожнай хаце дзіваваў на простую густоўную аздобу – метровыя выцінанкі на вокнах, даўгія папяровыя «рушнікі» ў куце на абразах.

Паляпшэнне дабрабыту, вынішчэнне «неперспектыўных» малых вёсак і хутароў, арыентацыя на гарадскія занавескі, на «цюль», абыякавасць моладзі да бацькоўскай і дзедаўскай спадчыны пазбавілі нашыя музейныя калекцыі ўзораў выцінанкі. Бальшыня тых ранейшых папяровых упрыгожанняў патрапіла ў печ. У адрозненне ад украінскіх ці польскіх музеяў, дзе народная выцінанка захаваная і прадстаўленая не менш багата за пасхальныя пісанкі. І сама культура выцінанкі хутка знікла пад бязлітаснымі павевамі спажывецкіх настрояў «жыць як людзі». Хіба што на Новы год у садзіках, школах ды ўстановах, аддаючы даніну рамантыцы зрабіць хоць нешта для дзеда мароза ўласнымі рукамі, выразаюць з паперы нязграбныя сняжынкі, якія наклейваюць на ваконнае шкло.

Альбом выцінанак В.Дубінкі вяртае да нас пэўны пласт народнай культуры.

Вячаслаў Дубінка – вядомы пісьменнік, журналіст, выдатны фатограф. Мастацтва выцінанкі, па яго шчырым прызнанні, ён пераняў ад маці, відаць, шмат што запомніў з дзяцінства, якое прайшло ў пасляваеннай слуцкай вёсцы. Выданне выцінанак прадстаўляе яго як таленавітага народнага майстра, адоранага тонкім густам і неардынарным бачаннем свету. Кожная выцінанка




мае асобны сюжэт, канцэнтравана апавядае пра ўяўнае жыццё.

Майстроў выцінанкі сёння не шмат. Не прыгадаць у нас і спецыяльных выставак, прысвечаных гэтай галіне народнага мастацтва. І новая культура яе пакуль неразвітая, мала падставаў казаць пра яе шырокае адраджэнне. У гэтых адносінах выданне альбома можна лічыць унікальнай з'явай. Камплект з 20 узораў, выкананы на вельмі каштоўнай паперы, сам па сабе неаспрэчны твор мастацтва. Аўтар рыхтаваўся выдаць альбом болей за дзесяць гадоў. Не столькі з-за складанасці выканання кампазіцыяў, колькі з-за немагчымасці знайсці выдаўца. «Выцінанкі» — выданне аўтарскае. Мастацкім рэдактарам альбома выступіў вядомы мастак Уладзімір Крукоўскі. Уступны артыкул напісаў мастацтвазнаўца Яўген Сахута. Мае выданне і аўтарскі нарыс, у якім Вячаслаў Дубінка з уласцівым яму пачуццём гумару апавядае пра сваё жыццё, пабачаныя краіны, журналісцкі шлях, дзіцячыя і дарослыя захапленні. Выцінанка – з дарослых хобі. Вось некалькі аўтабіяграфічных радкоў, прысвечаных гэтаму занятку: «Як выпадала хвілінка вольная, чараваў над паперай. Толькі праз паўгады замест простых сняжынак і сурвэтак атрымалася больш-менш удалая кампазіцыя – вежа старажытнага замка. А пасля набегла асаблівае натхненне. Выштукоўваў нажніцамі з паперы ўсё, што душа прасіла. За дзесяцігоддзі шчыравання нажніцамі над паперай быў удзельнікам шматлікіх выставаў: на Украіне, у Вільні, Чэлябінску, Маскве, Плоўдзіве. Аздобіў шмат дзіцячых кніжак, паэтычных зборнікаў, маю за гэта некалькі дыпломаў».

Альбом Дубінкі выдадзены малым накладам – 500 асобнікаў і можа аздобіць любую нават самую адборную бібліятэку. ■

# «Членашкодніцкая» прасунутасць

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**Беларусаў, аздобленых у самых розных частках цела татуіроўкамі і пірсінгам, з кожным годам даводзіцца бачыць усё болей. Завушніцы і калечкі сталі насіць не толькі жанчыны і не толькі ў вушах, а наколкі – ужо даўно не нацэльны атрыбут выключна крымінальных элементаў. Гэта і разняволенае самавыяўленне, і фрэйдысцкія завіханні асобы, і разам з тым – сляпая мода і дурнота. У любым выпадку цікава, як яно ўсё робіцца?**



Самыя старажытныя татуіроўкі датуюцца 4-ым тысячагоддзем да н.э.. – яны ёсць на егіпецкіх муміях. Гістарычныя *tattoo,* у адрозненне ад сучасных, мелі збольшага практычны сэнс. Пры першабытным ладзе — ад малюнка ў якасці знака племені, сямейнага стану і сацыяльнай прыналежнасці да тату-выявы з магічнай, як лічылася, сілай. У Кітаі для меткі злачынцаў на іхнія лбы наколвалі іерогліф «сабака», а японскія гейшы, татуіруючы сабе ўсё, апрача твараў і далоняў, абыходзілі такім чынам забарону паказваць аголенае цела.

Неяк Джэймс Кук з аднаго плавання прывёз спрэс зататуіраванага палінезійца. Пасля гэтага выпадку ўвайшло ў моду паказваць такія «жывыя карціны» на ярмарках і цыркавых прадстаўленнях. Потым пераймаць татуіроўкі паступова пачалі еўрапейцы. Пераважна матросы і шахцёры дзеля адмеціны цэхавай салідарнасці.

У СССР татуіроўкі былі найперш прыкметай зэкаў і наогул маргіналаў (адсюль – ад колеру наколак — «сінія, сінюгі»). Кожная карцінка мела сваё значэнне і змест: які статус быў у яе ўладальніка на «зоне», за што і колькі ён сядзеў. Былі аматары што-небудзь нанесці сабе на скуру і сярод добрапрыстойных грамадзянаў. Яны абмяжоўваліся малымі па памерах і часцей за ўсё тэкставымі наколкамі: пісалі ўласныя імёны альбо імёны каханак. Выглядала і выглядае такое самаробства досыць убога. Многія на працягу ўсяго жыцця шкадуюць, што калісьці па-дурному заплямілі рукі, плечы ці грудзі.

Татуіроўкі можна пазбавіцца толькі праз хірургічнае ўмяшальніцтва, прычым на яе месцы ўсё роўна застануцца шнары і рубцы.

У якасці выйсця няўдакі з самаробнымі брыдотнымі і каравымі наколкамі звяртаюцца да прафесійных майстроў татуіровак па пераробку на больш прыстойныя. Да прыкладу, у мінскім тату-салоне «У лісіцы», які афіцыйна працуе ўжо амаль 4 гады, кажуць, што першым часам такія небаракі складалі палову ад усіх кліентаў, а зараз – гэта кожны пяты.

«У лісіцы» – ці не самае вядомае ў Беларусі месца, дзе робяць татуіроўкі. Нядаўна на тэлебачанні быў нават запушчаны іхні рэкламны ролік. Дарэчы, усе татуіроўшчыкі, што працуюць тут, маюць мастакоўскую адукацыю. Таму якасць малюнка, выразнасць лініяў і насычаная каляровая гама гарантуюцца. Але змест можа быць якім заўгодна – усё залежыць ад пажадання і густу заказчыка. Гаспадыня салона Святлана Жыгімонт, якая і ёсць Лісіцай, кажа, што «гэта ягоны выбар, і чалавек сам за тое адказвае». Узроставы цэнз для татуіравання – 16 гадоў. Настойліва адгаворваць не будуць, адзінае —

папярэдзяць, калі малюнак, які кліент з-за недасведчанасці жадае бачыць у сябе на целе, можа прывесці ў будучым да непрыемнасцяў. Скажам, калі аматар татуіроўкі раптам хоча займець на плячы «карону» з масцю бубны альбо «павука ў павуціне» – знакі гомасексуалістаў і злодзеяў. Але пра ўсё папярэдзіць у са-



лоне не могуць, бо «трэба некалькі гадоў жыцця пакласці, каб дасканала вывучыць розную сімволіку». Што тычыцца своеасаблівага рэйтынгу частак цела, дзе часцей за ўсё робяць татуіроўку, то ў абодвух палоў на першым месцы знаходзіцца плячо, далей у мужчынаў – перадплечча і спіна, а ў жанчынаў – клубы.

Нататуіраваць малюнак да 30 кв.см. (трохі болей каробкі запалак) будзе каштаваць 33 тысячы рублёў. У параўнанні з іншымі краінамі гэта досыць танна: у санкт-пецярбургскай Акадэміі бодзі-арту кошты большыя ў 5 разоў, у Еўропе і ЗША – яшчэ даражэй. За адзінку рабочай плошчы татуіроўшчыкі звычайна бяруць «пачак» – гэта 50 кв.см., памеры стандартнага цыгарэтнага пачка. Размаляваць усю спіну, напрыклад, абыдзецца блізу 1.000 долараў. Тату-працэдура з анестэзіяй каштуе на 20% даражэй. Боль пры наколкавым роспісе ў кожнага індывідуальны: хтосьці трывае нармальна, нехта губляе прытомнасць.

Працэс татуіравання просты: пад скуру на 1-1,5 мм іголкай уганяецца спіртовы раствор фарбы. Потым яна засвойваецца ў скуравых тканках. Свежая татуіроўка ўяўляе сабой рану, як ад падрапанага калена. Зажыве і будзе гатовая яна прыкладна праз 2 тыдні. Дарэчы, іголка абавязкова павінна быць, як і пальчаткі майстра, аднаразавай, а ўсе суправаджаючыя працэдуру рэчы, напрыклад, ёмістасці з фарбамі, прастэрылізаваныя. Усё мусіць быць стэрыльна, як у стаматалагічным кабінеце. Гэта асноўная ўмова для легальнай дзейнасці тату-салона ад санэпідэмстанцыі і міністэрства аховы здароўя.

«У лісіцы» мне паказалі фотаальбом сваіх твораў на целах кліентаў. Вымалявана гжэчна – на тое і прафесійныя мастакі. Матывы малюнкаў самыя розныя – ад біблейскіх да абстракцыянізму. Што праўда, ёсць дастаткова арыгінальныя. Аднак звычайна людзі звяртаюцца па банальшчыну – пялёсткі, матылькоў ды яшчарак. Ужо не кажучы пра тое, што на гэта ім самім і іхнім знаёмцам давядзецца глядзець усё жыццё. На адно і тое ж. Пачуванне арыгінальнасці і навюткасці, што было, знікае. Адсюль, відаць, і спараджаецца татуманія: адзін малюнак прыядаецца – робіцца чарговы, а чыстага цела застаецца ўсё меней.

Да ўсяго «У лісіцы» робяць перманентны макіяж, які трымаецца некалькі гадоў і каштуе ў 2-3 разы даражэй за татуіроўку. Таксама робіцца пірсінг, то бок, праколванне цела, і шнараванне, гэта значыць, штучнае нанясенне шнароў. Зрабіць у сабе ў целе дзірку каштуе 22 тысячы рублёў. Незалежна ад таго, дзе – у вуху, брыве, носе, языку, пупе ці геніталіях. Пры пірсінгу зажыўленне праходзіць марудней, чым пры татуіраванні. Хутчэй за ўсё зажывае язык, а вось дзеля таго, каб пафарсіць здаровым праколатым пупком, давядзецца чакаць 6 месяцаў.

За амаль 4 гады афіцыйнага існавання салона лісіцы» сюды звярнуліся каля 5 тысячаў чалавек. Тут кажуць, што ў асноўным публіка каля 30 гадоў і больш-менш заможная. А наогул, улічваючы праколатыя вушы амаль 90% жанчынаў і самаробныя наколкі, можна сказаць, што татуіроўкі і пірсінг маюць больш за палову беларусаў. Дарэчы, гаспадыня салона гаворыць, што ў іх, напрыклад, «перабывала палова «Альфа-радыё». ■

СПОРТ

# Клетачны правал

**Аляксей СТАЎСКІ**

Розных вынікаў выступлення беларускіх шахматыстаў на сусветнай шахматнай алімпіядзе ў Стамбуле чакалі беларускія аматары спорту, але не такога правалу!..

З часу мінулага выхаду НАШАЙ СВАБОДЫ тыдзень таму беларускія шахматысты згулялі пяць матчаў, з якіх выйгралі толькі адзін – у вельмі слабой зборнай Бангландэша (4:0). Але пры гэтым мінімальна прайгралі Галандыі — 1,5:2,5, узялі толькі па адным ачку ў матчах з іспанцамі і латышамі і ўвогуле толькі палову ачка ў гульні з кітайцамі. Агульная колькасць ачкоў, набраных нашымі, складае роўна 21, што дазволіла займаць зараз толькі пяцідзесятае(!) месца. Канешне, яшчэ наперадзе чатыры туры, але неяк ужо не верыцца ў кардынальныя зрухі да лепшага нашай шахматнай дружыны. Для параўнання, ад лідэра, зборнай Расіі, мы адстаем на цэлых сем ачкоў (пакуль што).

Жанчыны займаюць месца ў чацвёртым дзесятку, што ў прынцыпе і ёсць рэалізацыяй іхняга патэнцыялу. У апошніх турах яны перамаглі толькі манголак — 2:1, згулялі ўнічыю з Венесуэлай і Румыніяй — 1,5:1,5 і прайгралі 1:2 палячкам, грачанкам і латышкам. Зараз нашы шахматысткі маюць 16 ачкоў і адстаюць ад лідэра (кітаянак) на сем. Трэба адзначыць яўную няроўнасць выступлення шахматыстак, што і становіцца прычынай няўдалага выступлення. Калі Наталля Палякова і Генрыета Лагвілава, якія лічыліся адпаведна трэцім і другім нумарамі каманды, набралі на дваіх адзінаццаць ачкоў, то дзве астатнія шахматысткі, у тым ліку №1 Раіса Эйдэльсон, на дваіх набралі толькі пяць. А галоўны крытэрый поспеху на падобных спаборніцтвах – стабільны склад каманды і гульня без зрываў і правалаў. Зрэшты, у адрозненне ад мужчын, у жанчын яшчэ ёсць шанец трапіць прынамсі ў дваццатку лепшых. Засталося пяць тураў. ■

# Футбол пайшоў на адпачынак

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Завяршыўся чарговы чэмпіянат Беларусі па футболе. Медальная інтрыга захоўвалася да апошняга тура, і толькі ў ім стала вядома, што сярэбраныя медалі ўсё ж дастануцца барысаўскаму БАТЭ, які цяпер і выступіць наступным летам у розыгрышы еўрапейскага кубка УЕФА, а бронзаваму прызёру, мінскаму «Дынама», дастанецца пуцёўка ў кубак Інтэртата. Усё гэта было абумоўлена тым, што «Дынама» ў апошнім туры ў прынцыповым матчы з чэмпіёнам краіны мазырскай «Славіяй» на сваім полі прайграла з лікам 0:1, а галоўны канкурэнт БАТЭ аднячасова з гэткім жа лікам перамог мінскае «Тарпеда». У «Дынама» тым не менш яшчэ застаецца шанец трапіць у кубак УЕФА праз перамогу ў розыгрышы кубка Беларусі.

Між тым гэтак жа незаўважна, як і чэмпіянат Беларусі, завяршыўся ўвесь футбольны сезон тых краінаў, дзе чэмпіянаты праводзяцца па сістэме «вясна—восень». У тым ліку і ў нас. І ўжо можна падводзіць вынікі. А вынікі ў гэтым годзе ўсё ж крыху больш абнадзейваюць, чым у мінулым. Зайграла зборная. Зайграла шчыра, па-сапраўднаму, так, як можа гуляць. З'явілася нейкая надзея, якой раней не было. А ўсё дзякуючы Эдуарду Малафееву, «новаму-старому» трэнеру галоўнай каманды беларусаў.

Правалілі еўракубкі. Зрэшты, ужо паступова прызвычайваемся. Усе лепшыя гуляюць за мяжой, а ў сваіх клубах застаюцца толькі тыя, каго ніхто купляць не жадае...

Перапынак да вясны. Але ўжо ў канцы сакавіка зноў мяч будзе ўстаноўлены ў цэнтры брудна-зеленаватай паляны, і зноў усё пачнецца спачатку. Новы сезон, новыя надзеі.

А тым часам падведзеныя вынікі штогадовага традыцыйнага апытання наконт лепшага футбаліста Беларусі. Ім у другі раз у жыцці стаў паўабаронца кіеўскага «Дынама» і зборнай Беларусі Аляксандр Хацкевіч. Другое і трэцяе месцы занялі адпаведна Валянцін Бялькевіч і Раман Васілюк. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК



Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №848 Нумар падпісаны ў друк 9/11/2000 (15:00) Наклад – 9.290